# ШЛЯХ ДА БОГА

## ПРАВОСЛАВНЫЙ КАЛЕНДАРЬ

**МАЙ**

21 — Апостола и Евангелиста Иоанна Богослова,
22 — Перенесение мощей святого Николая из Мир Ликийских в Бар,
24 — Святых равноапостольных Мефодия и Кирилла, учителей Славянских,
28 — Вознесение Господне.

## Нашы людзі ў Ватыкане

*Два тыдні знаходзіліся ў Ватыкане душпастыр для грэка-католікоў Брэстчыны святар Ігар Кандрацьеў, студэнт IV курса гістарычнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Андрэй Крот і рэдактар газеты "Царква" Ігар Бараноўскі. Службовая камандзіроўка выклікана тым, каб пазнаёміцца з дзейнасцю хрысціянскіх супольнасцей, рэлігійным навучаннем у семінарыях.*

*Карэспандэнт "Газеты для вас" узяў інтэрв'ю ў айца Ігара, які праводзіць службу ў Івацэвіцкай грэка-каталіцкай царкве.*



*НА ЗДЫМКУ (злева направа): рэдактар газеты "Царква". Ігар Бараноўскі, студэнт IV курса гістарычнага факультэта Брэсцкага дзяржуніверсітэта Андрэй Крот, айцец Ігар Кандрацьеў на аўдыенцыі ў Папы Рымскага.*

**— Айцец Ігар, трапіўшы ў Італію, дзе там жылі!**

— У Рыме ёсць цэнтр "Русікум" — своеасаблівая гасцініца для рускіх служыцеляў культу, якія прыязджаюць у Ватыкан па службовых справах. Там нас размясцілі. Вельмі цёплай атрымалася ў нас сустрэча ва ўпраўленні ўсходніх цэркваў, якія добра ведаюць пра ўсе нашы праблемы.

7 мая каталікі ўсяго свету адзначалі свята іконы Маці Божай Жыровіцкай. Нам дазволілі ў храме, які належыць украінцам, правесці богаслужэнне на беларускай мове.

**— Папа Рымскі — адзін з самых паважаных і папулярных людзей свету. Вы з ім сустракаліся!**

— Папа Рымскі вітаў нас па-беларуску "Хрыстос уваскрос, дарагія беларусы!" Ён благаславіў нас, абяцаў падтрымку і дапамогу. Мы наведалі таксама яго прыватную капліцу, дзе Павел II кожную раніцу моліцца. Разам з ім удзельнічалі ў набажэнстве.

**— Айцец Ігар, якія вывады для сябе Вы зрабілі пасля наведвання Ватыкана!**

— Першы вывад такі. Пакуль мы самі не адродзім грэка-каталіцкую царкву ў Беларусі, ніхто гэта за нас не зробіць. Усялякае супрацьстаянне бессэнсоўнае, таму што па абодва бакі барыкад — людзі. Пакуль чалавечае сэрца, дадзенае Богам, не змянілася, ніякая рэформа не ў сілах змяніць чалавека.

Другі вывад. Грэка-каталікі розных краін адрозніваюцца адзін ад другога знешнімі атрыбутамі. Рэлігійны светапогляд, пошукі праўды ў бязбожным грамадстве, імкненне разабрацца ў сэнсе чалавечага жыцця — вось тое галоўнае, што нас аб'ядноўвае.

*А. ЛАЎРАНЮК.*



## За і супраць

На пасяджэнні Баранавіцкага гарвыканкама разгарэлася спрэчка на незвычайную тэму. Царква "Новае пакаленне" прасіла дазволу на правядзенне масавай акцыі, прымеркаванай да Вялікадня, у Доме культуры і тэхнікі баваўнянага аб'яднання. Члены выканкама засумняваліся: ці этычна праводзіць службу ў ачагу свецкай культуры, пазбавіўшы моладзь магчымасці адпачываць тут на тыдзень. Прадстаўнікі царквы і выканкама па-рознаму тлумачылі закон, які рэгулюе такія і іншыя масавыя мерапрыемствы. У адмове вернікам адыграла ролю і адсутнасць пісьма-дазволу дырэкцыі прадпрыемства.

Выпадак неардынарны. Першая спроба часова завалодаць памяшканнем культурнага цэнтра ў вернікаў праваліласа. Аднак гэта — не рашэнне праблемы. Вернікаў у горадзе становіцца ўсё больш. Напэўна, узніклыя пытанні трэба ўладкоўваць у рабочым парадку, а не з наскоку. Тыя, што не вераць, таксама людзі з аднолькавымі правамі на адпачынак з вернікамі.

*П. НАГНІБЕДА.*

# Незвычайная гісторыя Жыровіч

**Свята іконы Маці Боскай Жыровіцкай каталікамі адзначаецца 7 траўня, а вернікамі праваслаўнай канфесіі — 20 траўня.**

Назва Жыровічы паходзіць ад слова «жыр» альбо «жэр», что ў даўнія часы адзначала тлушч, ежа. Сапраўды, Жыровічы здаўна мелі славу багатых угоддзяў.

У свой час Вялікі князь Літоўскі Казімір Ягелончык (1440—1492 г.г.) перадаў вялікі абшар жыровіцкай зямлі літоўскаму падскарбію Аляксандру Солтану. На месцы Жыровічаў у той час з трох бакоў была пушча, з чацвёртага – вялікія лугі. Гэтыя бязлюдныя мясціны набылі вядомасць у 1470 годзе, калі тут адбыўся цуд. Пастушкі, якія пасвілі ў лесе жывёлу, аднойчы заўважылі на дзікай грушы нейкую рэч, ад якой ва ўсе бакі разыходзіліся праменні. Самы адважны пастушок Пётр залез на дрэва і знайшоў там маленькі абразок, які ззяў незвычайным бляскам. Хлопчык забраў яго і прынё да свайго пана. Солтан быў узрушаны апавяданнем хлопчыка, старанна загарнуў абразок у палатно і схаваў у куфэрак. На наступны дзень Солтан паведаміў гасцям аб гэтай знаходцы, а калі хацеў паказаць яе, то ўбачыў, што хоць куфэрак быў замкнуты, самога абразка не было. «Не людская гэта справа, — сказаў ён, — а Божая». Солтан быў яшчэ больш здзіўлены, калі праз нейкі час пастушкі зноў прынеслі яму абразок, знойдзены на грушцы. Тады Солтан узяў абразок, сеў на каня і паехаў у пушчу, дзе здарыўся цуд. Лес быў густы, там ён быў вымушаны ісці пешшу. Дайшоўшы да грушы, Солтан трапіў у непрытомнасць, у якой быў некалькі гадзін, а калі зноў прыйшоў у свядомасць, паведаміў людзям, якія яго знайшлі, што чуў Божы голас, які загадаў пабудаваць на тым месцы святыню. Потым высеклі лес вакол грушкі і ўзвялі драўляны храм, у якім быў змешчаны цудоўны абразок. Пад клапатліваю апёкай Аляксандра Солтана Жыровічы сталі хутка развівацца, а слава цудоўнага абразка прыцягвала сюды вялікую колькасць набожнага люду. Праз некалькі дзесяткаў гадоў пасля з'яўлення цудоўнага абразка адбыўся ў Жыровічах новы цуд, які сведчыць пра вялікую Божую моц.

Аднаго разу ноччу драўляная святыня на вачах жыхароў Жыровічаў згарэла імгненна. Пра выратаванне абразка не магло быць і гаворкі. Пасля чаго людзям здавалася, што ў іх аднялі найвялікшы скарб. Але праз час дзятва, якая гуляла каля папялішча, заўважыла панну незвычайнай прыгажосці, ад якой зыходзілі ясныя праменні. Яна сядзела на камяні. Перапалоханыя хлопцы пабеглі да святароў і паведамілі аб убачаным. Калі святары пайшлі да таго месца, то панны не знайшлі, аднак убачылі на камяні абразок, перад якім гарэла свечка. Яны з радасцю перанеслі цудоўны абразок у драўляную каплічку. З таго часу зноў пачала пашырацца слава Жыровічаў.

Але надыйшоў перыяд рэлігійнага разладу, які з асаблівай сілай праявіўся ў другой палове XVI стагоддзя. Нашчадкі Солтана ігнаравалі культ Багародзіцы і трымалі святыню толькі таму, што яна была для іх крыніцай даходаў. Ахвяраванні вернікаў часта ішлі на мэты далёка не шляхетныя. Распачатая маршалкам Янам Солтанам будова мураванай святыні была спынена на доўгія гады, ажно да 1613 года. У той час слонімскім старостам быў слаўны канцлер Леў Сапега. Тагачасны ўладальнік Жыровічаў Ян Мялешка быў шчырым вернікам. Ён узвёў у Жыровічах вельмі



прыгожую мураваную святыню, пабудаваў кляштар і запрасіў у Жыровічы ордэн базыльянаў (Св. Базыля Вялікага).

Леў Сапега ахвяраваў свае землі і даў грошы на будаўніцтва храма. Менавіта з таго часу і распачынаецца гісторыя Жыровічаў, якая здабыла ім небывалую славу. У значнай меры гэтаму садзейнічала ахвярная праца базыльянаў. Першым прэорам кляштару быў вядомы пазней святы мучанік Юзэфат Кунцэвіч. Святы Юзэфат і яго паслядоўнікі свядома імкнуліся да стварэння ў Жыровічах цэнтра адзінства хрысціян.

Размешчаныя на мяжы Літвы, Русі і Кароны, Жыровічы маглі збіраць вернікаў, што ўслаўлялі Маці Божую, і стварылі адну вялікую хрысціянскую сям'ю. Набожная праца законнікаў сустракала прызнанне і падтрымку простага люду і шляхты. Шматлікія цудоўныя аздараўленні хворых і іншыя надзвычайныя цуды, якія адбываліся ў Жыровічах, прыцягвалі да святога месца тысячы людзей. Слава Жыровічаў пашыралася далёка за межы краю.

У 1652 годзе мястэчка атрымала ад караля Яна Казіміра Магдэбургскае права.

У 1655 годзе пад кіраўніцтвам атамана Залатарэнкі дваццацітысячная армія казакоў заняла Жыровічы, спаліла мястэчка, забіла амаль усіх людзей. Асабліва здзекаваліся казакі над базыльянамі. Святыня была разбурана і знішчана. Толькі ў 1660 годзе для Жыровічаў пачалася лепшая будучыня: панавала адзіная вера, якая яднала дзве розныя хрысціянскія канфесіі. Каля Жыровічаў былі пасяленні татараў, якія з пашанай адносіліся да хрысціянства.

Вялікая слава Жыровічаў дайшла ажно да Рыма. Цудоўны абразок Маці Божай Жыровіцкай аб'яднаў наша мястэчка з Апостальскаю Сталіцаю. І пра гэта існуе свая прыгожая і дзіўная гісторыя.

Урачыстая каранацыя цудоўнага абразка адбылася ў 1730 годзе і праходзіла восем дзён з 19.09 па 26.09.

Айцы-базыльяне вялі дакладны падлік асоб, якія прычашчаліся тут. За час урачыстасці да Святой Камуніі прыступілі 69837 рыма-каталікоў, 70515 грэка-каталікоў, а ўсіх разам – 140352 асобы.

Шэсць трыумфальных брамаў было збудавана па дарозе са Слоніма. Каранацыю абразка правадзілі мітрапаліт Атаназы Шэптыцкі і два біскупы. Княгіня Ганна Сангушка ахвяравала дзве залатыя кароны, цудоўна выкананыя ў Рыме і аздобленыя каштоўнымі камянямі. У Рыме ж былі адліты памятныя медалі ў гонар такой незвычайнай урачыстасці.

Праз стагоддзе пасля ўрачыстай каранацыі цудоўнага абразка ў Жыровічах усё непазнавальна змянілася. Базыльянская школа была заменена на духоўную семінарыю. У 1839 годзе святыня і абразок Маці Божай Жыровіцкай царскім указам былі перададзены праваслаўным.

Адноўленая копія абразка Маці Божай Жыровіцкай знаходзіцца ў галоўным алтары касцёла Святога Андрэя. Каля цудоўнага абразка і цяпер нястомна моліцца люд Божы. І толькі аднаму Богу вядома, хто і колькі атрымлівае тут ласкаў.

*айцец Вітольд ЖЭЛЬВЕТРА, ксёндз-дэкан касцёла Святога Андрэя.*

● *ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ*

## Деньги не пахнут. Но могут вызывать аллергические реакции

С 1 января 1999 года в 11 европейских странах вводится новая денежная единица — "евро". Специалисты уже подсчитали, что на чеканку новых монет уйдет 300 тысяч тонн металла. Однако немногим известно, что в сплаве, из которого планируется изготавливать эти монеты, большое содержание никеля — металла, вызывающего аллергические реакции. Ожидается, что постоянно пользоваться новой валютой будут 340 миллионов человек. Учитывая, что от аллергии страдает около десяти процентов населения Европы, очевиден вывод: "евро" может заметно осложнить нашу жизнь. А ведь, по утверждению медиков, количество больных аллергией и бронхиальной астмой увеличивается в мире примерно на 5 процентов за год.

Правда, в качестве наличных денег "евро" войдет в обращение только с 2002 года. Было бы замечательно, если бы эти три с лишним года специалисты использовали для того, чтобы заменить никель каким-либо иным металлом, не вызывающим аллергических реакций.

Впрочем, и без "евро" в нашей повседневной жизни хватает аллергенов. Пыльца цветущих деревьев и луговых трав, шерсть животных, пищевые аллергены... Наконец, тот же никель, достаточно часто встречающийся в сплавах, используемых для изготовления колец и серег. Первейший совет людям, подверженным аллергическим заболеваниям, — по возможности избегать контактов с аллергенами. Правда, следовать ему очень сложно; не будешь же сидеть взаперти от зимы до зимы. И тут на помощь приходят антигистаминные препараты.

Главный специалист по аллергологии Минздрава Беларуси Николай Скепьян рекомендует кларитин — максимально безопасное и эффективное лекарственное средство. Кларитин практически не имеет побочных эффектов, не вызывает сонливость, мышечную слабость или нарушение зрения. Одна таблетка избавит вас от аллергических реакций на целые сутки, начав действовать уже через 30 минут. Для покупки кларитина в аптеках не требуется рецепт, он разрешен даже детям с двухлетнего возраста и специально для них выпускается в виде сладкого фруктового сиропа. При этом для приобретения кларитина вовсе не надо ждать появления "евро" — в белорусских аптеках его можно купить за белорусские рубли.

*В. СЧАСТНЫЙ.*

☎ *АЛЛО, РЕДАКЦИЯ?*

## КАК ЗАЩИТИТЬ СОБСТВЕННОСТЬ?

*—Алло, это "Газета для вас"? Очень хотелось бы узнать, какая существует административная ответственность за посягательство на имущество крестьянского хозяйства?*

*С. Демидович (г. Береза).*

### Административная ответственность за посягательство на имущество крестьянского (фермерского) хозяйства

| Статья | Правонарушение | Санкция |
|---|---|---|
| ст. 51 | Мелкое хищение имущества | Штраф от 2 до 5 МЗП или исправительные работы от 1 до 2 месяцев с удержанием 20% от з/п |
| ст. 51* | Уклонение от возмещения имущественного ущерба, причиненного преступлением | Штраф до 5 МЗП или исправительные работы до 2 месяцев с удержанием 20% от з/п |
| ст. 53 | Порча земель, загрязнение химическими и радиоактивными веществами, иными отходами и сточными водами (ч. 1), засорение земель строительными, бытовыми и другими отходами (ч. 2) | Штраф от 1 до 10 МЗП на граждан и от 5 до 25 МЗП на должностных лиц, предупреждение или наложение штрафа на граждан от 1 до 3 МЗП, на должностных лиц — от 3 до 10 МЗП |
| ст. 54 | Несвоевременный возврат временно занимаемых земель либо невыполнение обязательств по приведению их в состояние, пригодное для использования по назначению | Штраф от 3 до 10 МЗП на должностных лиц |
| ст. 56 | Уничтожение межевых знаков границ землевладений и землепользователей | Штраф от 1 до 5 МЗП на граждан и на должностных лиц от 5 до 10 МЗП |
| ст. 61 | Повреждение водохозяйственных устройств, нарушение правил их эксплуатации | Штраф на граждан от 3 до 10 МЗП и на должностных лиц от 5 до 25 МЗП |
| ст. 97 | Потрава посевов, порча или уничтожение находящегося в поле собранного урожая, повреждение насаждений скотом или птицей | Штраф на граждан до 3 МЗП, на должностных лиц до 5 МЗП, совершение повторно указанных действий в течение года влечет наложение штрафа на граждан до 5 МЗП, на должностных лиц до 10 МЗП |
| | Проезд по посевам или насаждениям на автомобиле, тракторе, комбайне или другой машине | Штраф в размере до 1 МЗП |
| ст.97* | Реализация семян, которые не соответствуют сортовым и посевным качествам | Штраф на граждан от 3 до5 МЗП, на должностных лиц от 5 до 10 МЗП |



☺ *ІЗ СЕМЕЙНОГО АЛЬБОМА*

# Для дома, для семьи, для души...



*Постучалась в дверь беда...*
*Фото А. ГАНЧУКА.*

☺ *ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...*

## *Жестокая правда о войне...*

* Новейшая правда 1941-го: по самым скромным подсчетам только за первые 10 дней войны от Белостока до Минска общие потери наших людей составили около 1 миллиона человек. А называли вчетверо меньшую цифру... Дорога от Гродно до Новогрудка выложена человеческими костями — сплошная братская могила.

* В начале Великой Отечественной войны в Белостокском и Новогрудском котлах войска вермахта разбили две — 3-ю и 10-ю — советские армии. О Новогрудском котле преподавателем юридического факультета Гродненского университета подготовлена целая книга.

* В Беларуси у Сталина было одних только генералов около ста, не считая полковников на генеральских должностях. На три белорусские армии. Абсурд.

* Война началась с откровенного предательства. 12-14 ноября 1940 г. на переговорах в Берлине Молотов полностью разложил карты перед Риббентропом: будем отбирать у вас Румынию и Болгарию, потом выйдем на Дарданеллы, а потом захватим все, что ниже Дамаска. Гитлер понял, что это "капут", вынул из-под сукна план "Барбаросса" и сказал: "Поехали!"

☺ *ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ*

## *"Секреты" с уксусом*

Чтобы уксус не портился, нужно поставить закупоренную бутылку в воду, кипятить 20—30 минут и в этой же воде дать остыть.

Если ополоснуть посудомойку теплой водой с добавлением уксуса, у нее исчезнет неприятный запах.

Совершенно исчезнет запах рыбы с посуды, если тряпкой, смоченной в уксусе, протереть ее, а потом сполоснуть теплой водой.

Крепким раствором уксуса можно:
снять пятна со стекол и зеркал;
придать блеск позолоченной деревянной раме;
вычистить ванну, раковину, эмалированные кастрюли;
вымыть жирную посуду и щетки;
снять пятна от фруктов;
вычистить засаленный воротник пиджака или пальто.

Если волосы после мытья сполоснуть водой с добавлением уксуса (1 столовая ложка на 1 л воды), они станут блестящими и шелковистыми.

Чтобы шелк и замша стали мягкими, нужно прополоскать их в воде с уксусом (3 столовые ложки на 1 л воды).

Прежде чем положить в тесто соду, надо развести ее в ложке уксуса, тогда запах соды в готовом изделии не будет чувствоваться.

Чтобы обивка мебели, ковры стали ярче, нужно выбивать их через тряпку, смоченную раствором 1 столовой ложки уксуса и 1 л воды.

☺ *ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ*

## *Бальзам домашний*

Чернослив отделяют от косточек, мелко нарезают. Шиповник, травы, пряности размалывают, соединяют с черносливом и соединяют со стаканом водки. Посуду плотно закрывают и ставят в теплое место на месяц. В остальную водку добавляют мед, прополис, ванильный сахар и тоже выдерживают месяц. Затем настоянную на травах водку процеживают через марлю, а мезгу из трав заливают 1/2 стакана воды, доводят до кипения, дают отстояться и выливают в бутыль с основным бальзамом. Туда же выливают травяной настой. Бутыль хорошо закрывают и ставят в прохладное место на месяц.

Водка — 1 литр, мед — 50 г, прополис — 10 г, чернослив — 50 г, шиповник — 25 г, ваниль — 1 ч. ложка, гвоздика, кориандр — 1/2 ч. ложки, травы (липовый цвет, полынь, зверобой, мята) — по 1/2 ч. ложки.

☺ *КАЛЕНДАРЬ САДОВОДА И ОГОРОДНИКА*

Стареющая Луна 19 мая в 12 ч. 3 мин. вошла в очень продуктивный знак Рыб и пробудет в нем до 15 ч. 6 мин. 21 мая. Со второй половины дня 19 мая по первую половину дня 21 мая эффективны посадки, пересадки корнеклубневых культур. Полезны поливы и подкормки как "корешковых", так и "вершковых" растений.

☺ *УЛЫБНИТЕСЬ*

Маленький мальчик шел с мамой по улице. Он побежал впереди и вдруг потерял маму.

Тогда он стал спрашивать прохожих:

— Скажите, пожалуйста, вы не видели маму с маленьким мальчиком?

XXX

— Как тебе нравится мое новое платье?

— Прекрасное! Твоя портниха так шьет, что и на тумбе хорошо сидит!

